# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:
за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку. . . . . 2 м.

№ 14. Менск, Серада, 24 верасьня 1919 г. № 14.


Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## НА СХОД!..

На сход, на усенародны, грозны,
бурны сход
Ідзі аграблены, закованы народ!
Як роуны йдзі жыхар між роуных
жыхароу,
Аддай на суд свае усе крыуды,
сьлезы, кроу.
Аб вечным катаваньні, зьдзеку
далажы.
І пакажы на курганы і на крыжы.
І аб раскопаных магілах не забудзь,
Як груганы тваіх там прэдкау
косьці рвуць.
Як гналі пот с цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае
зямлі.
І як крываулюць раскаваные рабы,
Як ты упадаеш з непасільнай
барацьбы.
Як Бацькаушчыну тваю рэжуць
на кускі,
Як гібнеш ты ад катняе рукі.
Аддаць усе на суд на усенародны
сход
Ідзі аграблены, закованы народ!..

**Янка Купала.**

Смаленск, 29/х 1918 г.

## Чаму разьвіуся у Расіі бальшавізм?

*(Канец).*

Цяпер нам трэба глянуць, які быу грунт у сярэдзіне Расіі, што спрыяу пашырэньню у ей бальшавізму.

З Петра I у Расіі зьявуляецца асобны кляс, — гэта кляс інтэлігэнцыі, кляс, праз свае выхаваньне саусім адарваны ад простага народу. Адзінак гэтага клясу народ называу „барын“. Гэты „барын“ аднак па сваім моральным якасьцям (качаствам) не стаяу вышэй ад народу, і праз гэта ня меу у яго вачох аутарытэту. Мы ведаем, што Пісемскі і навет „поэт-грамадзянін“ Некрасау былі пьяніцы. Інтэлігэнцыя з народу была праз выхаваньне у школе адарвана ад народу. Яна была, як варона, катарая „ад варон адстала, а к павам ня прыстала“. Духавенство і другая жандармэрыя глядзелі, каб настаунікі ня былі у блізкіх адносінах з народам.

Калі Пскоускі губэрнатар у сваім дакладзе зьвярнуу увагу Мікалая на тое, што настаунікі ня уходзяць у асьвечанае грамадзянство, то Мікалай напісау, што іх мейсцо павінны замяніць барышні вышаушые з чынавенства і вышэйшага грамадзянства.

Пасьля 1864 году нахлынула у наш край расійская інтэлігэнцыя, як чыноунікі, настаунікі і папы. І мы добра іх знаем па іх пьянству. Ведаем, што такая інтэлігэнцыя не магла мець велькага уплыву на народ.

У сямьі як інтэлігэнта, так і простага народу аутарытэт бацькоу стаяу вельмі нізка. Гэта няпрызнаваньне аутарытэту старшых перанялося з сямьі у школу. Школа перад вайною разваліваліся, і ніякіе заходы не маглі яе паправіць.

Што тычыцца рабочых, то іх стан, у параунаньні з станам заходніх рабочых, быу вельмі дрэнны. Усякае іх стараньне палепшыць свой стан цяжка каралося. Ангельскі прамысловец, каторы у сябе вельмі добра аплачвау рабочага, давау яму магчымасьць жыць „буржуем“, у Расіі навет у найдаходнейшых прамысловых закладах не палепшау яго стану, а пяцьце да гэтага карау разстрэламі, як гэта было на Лені у Бадайбо. З селяніна выціскалося усе, што толькі можна было.

Селянін і рабочы былі тым голым пролетарыятам, на каторы аперся у Расіі бальшавізм.

Да гэтага трэба дадаць, што ня рускіе народы ня мелі ніякіх культурна-нацыянальных правоу і сваім недавольствам шмат памаглі развалу Расіі.

Дзякуючы адсутнасьці у сямьі аутарытэту, дзеці буржуяу, катарым захацелося як хутчэй стаць так багатымі, як былі іх бацькі, бо чакаць на спадкі пасьля іх сьмерці, яны ня мелі сілы, першымі зрабіліся бальшавікамі і разам з сваімі бацькамі на сваю і іх карысьць вялі спэкуляцыю. Рабочы і селянін спадзяваліся палепшэньня свайго стану, а інародцы вызваленьня з пад страшэннага кацапскага уціску.

„Голы разбою не баіцца“, кажа беларуская прыказка. Тое, што не магло зрабіцца у Эуропе з вялікім аутарытэтам інтэлігэнцыі і духавенства, з добра абяспечанымі рабочымі і сялянамі, з правамі для інародцау, тое сталося у беднай і духоуна і матэрыяльна Расіі з яе 99 прыдушанымі народнасьцямі.

У канцы усяго гэтага трэба зазначыць, што вайна, каторую вядзе народ, несьвядомы яе мэтау, зьяуляецца у яго вачох простым злачынствам і мае вельмі шкадлівы уплыу на яго псыхіку. Бо калі можна рабіць велькіе зьнішчэньні на вайне, то чаму-ж ня можна рабіць меньшых у сябе у дома? Велікарусы захварэлі псыхічна. На гэтую хваробу яе зьвяртау увагу амэрыканскага дэлегата маскоускі гарадзкі галава Астрау у 1917 г. А яшчэ у пачатку вайны вядомы маскоускі профэсар судебнай мэдыцыны М. сказау сваім слухачом у унівэрсытэце Шаняускага: „баюся што посьле гэтае вайны павялічыцца лік крыміналау у Расіі, як гэта было і посьле Японскае вайны“. А што можа быць большым крыміналам, як не грамадзянская вайна?

**Х.**

12—IX 1919 г. Менск.

## Уражэньні з Гродзеншчыны.

*(Працяг).*

Перад гэтым я зазначыу, што у Гродзеншчыне руская культура зьнішчана дашчэнту, а беларускае саусім ня відаць. Затое шырыцца польская культура, я бы сказау, робіцца перахварбоука Беларусі з маскоускае хварбы у варшавскую. Конкрэтны прыклад гэтага я буду мець магчымасьць прывясьці далей.

Бальшавікі не пасьпелі у М. нічога зрабіць у пачатку гэтага году, як пачалася іх барацьба з легіонамі. Мястэчко М. было на фронце блізка два тыдні. Прыдзе разьведка награбяць і пойдуць. Шмат хто ад гэтага навет захварэу. Легіонэры помсьцілі тым, хто рабавау і нішчыу маенткі і шмат хто з хціуцау чужога дабра наклау галавою. Аб гарце і вырабе скуры я ужо не гавару.

Ведама, што пры гэтым разам з тым, хто напэуна быу варт кары, пацярпело і шмат нявінных, бо калі навет суд прысяжных часта засуджвау нявінных, то дзе-ж тут разьбіраць вінаватага ад нявіннага у час барацьбы? Ведама, што гэтые ахвяры нявінных праз іх крэуных маюць уплыу на народ і робяць наагул яго настрой у стасунку да новай улады.

Сяло Л. страціло застрэленымі, ці забітымі 7 чалавек. Гэтае сяло блізка усе з уцекачоу. Уцекачы

гэта ляжыць у інтарэсе развіцьця і будучыны як Украіны, так і дэмакратыі і социялізму...

Толькі тагды, калі у сэрцы Украіны, у Кіеве, забье магучы пульс незалежнага украінскага політычнага жыцьця, толькі тагды гісторыя Украіны і цэлага Усходу Эуропы выйдзе з цяперашн. хаосу на ясны пэуны шлях.

Не выведзе яе на гэты шлях жалезная крывавая дыктатура советов, аснованая на штыкох. За няясную, неабмяжованую, аморфную рэспубліку советов віднеецца даунейшая „единая, недѣлимая Россія“... Няясная, неабмяжованая усерасійская рэспубліка асабліва грозная і небяспечная для народау Усходу Эуропы, што цяпер паустаюць да політычнага жыцьця, каторые перш за усе мусяць запэуніць сабе волю і незалежнасьць.

А што-ж казаць пра Дэнікіна, пра цэлую імпэрыялістычную, захватную, разбойніцкую Расію Сазоновых і Маклаковых, да каторай з такімі сымпатыямі зьвяртаецца уся Эуропэйская рэакцыя?! Тут яуна і сьвядома выступае даунейшая Расія, каторая была турмою народау, а адначасьна магутнай сьцяною сусьветнага ладу і парадку. Уваскрасеньне тае Расіі, якбы яна сябе не называла, якіе б яна ня прыбірала формы,—гэта сьмерць Украіны, сьмерць для вызваленых з царскай няволі народау, гэта вечная пагроза для дэмократыі, для міру, для социялізму.

З гэтаю Расіяй няма ніякіх згаворау, няма ніякага міру, ні компромісу!“

### Адказ польскіх соцыялістау расійскім с.-р. на Беларусі.

З прыходам польскага войска у Менск, менскіе расійскіе с.-р. зьвярталіся лістам к П. П. С. з скаргаю, і вось які адтрымалі адказ:

„Дарагіе таварышы!—пішуць тые посьле звычайных, соцыял. слоу гжэчнасьці,—з лісту вашага можна бачыць, што вы лічыце народ беларускі за народ расійскі, што вы адкідаеце саусім істнаваньне беларускага руху, дзеле чаго і процэнт расійцау (людзей, гаворачых па-расійску) у лісьце вашым вельмі пабольшаны.

Адкідаючы захватные пляны польскай буржуазіі, прызнаючы поуные правы Белай Русі, зняходзім, што гэтае самае павінны прызнаць і расійскіе соцыялістычные партыі. Нажаль, у лісьце вашым мы ня бачым пэуная у гэтым разе пагляду, што аднак было-б для нас вельмі важна дзеле таго, што як сьведчаць вядомые нам факты, некаторые прадстаунікі вашай партыі прызнаюць літоуска-беларускіе землі за частку расійскай дзяржавы“.

### Беларускіе палякі аб Беларусі.

Ужо цеперся у Вільні выходзіць тыднeвік „Ziemia Wileńska“, а 21-га верасьня зьявіуся у Менску падобны тыднeвік „Zorza Mińska“. Як відаць па адрэсе друкарні, выдаюцца яны абодва у Вільні і аднначасьне выдрукавалі артыкул аднаго зьместу, мабыць, аднаго аутара, толькі у першым ен завецца „Budawanie Polski“, а у другім проста—„ад рэдакцыі“. І вось што мы там чытаем аб Беларусі:

„Льозунг незалежнай Белай Русі, падняты беларускімі дзеячамі, каторые бачаць у тым льозунгу верх сваіх жаданьняу да адраджэньня уласнага народу, пры цяперашнім стане немаль поунай русіфікацыі культурнай беларускага народу і пры нязьмерна шчуплай лічбе роднай беларускай інтэлігэнцыі,—есьць часова адарванаю ад жыцьця мараю, есьць ідэяй будучыны, каторая толькі паступова можа быць зьдзейсьнена на падставе вызваленьня краю і народу с-пад уплывау маскоускіх, забесьпячэньня яго ад новага забраньня Расіяй і запэуненасьці яму падставау да вольнага разьвіцьця культурна-нацыянальнага пад апякунчымі скрыдламі дэмократычнай Рэчы Паспалітай Польскай“.

А перад усім, мусім мы зазначыць, нашые палякі павінны памятаць, што яны на Беларусі, а не пад Кракавам, і быць тактоунымі, а аб тым, каб мара аб незалежнасьці перастала быць мараю, пастараюцца беларусы...

---

### Прывітальная прамова Я. Пілсудзкага.

19 г. верасьня, а 1 гадзіне у дзень, Начальнік Польскай Дзяржавы Я. Пілсудзкі адказвау у Шляхоцкім Доме на прывітаньні розных дэлегацыяу м. Менску. Кароткі сэнс прамовы Начальніка П. Дзяржавы быу гэтакі: „Шчыра дзякую за выказаные мне, як Галаве Польскага Войска і Польскай Дзяржавы, прывітаньні. Як сын гэтае зямлі, я добра ведаю гаротнае палажэньне яе, якое было заусeды доляю яе насяленьня. Дзяды нашые не бачылі ніколі нічога лепшага за гвалт, мукі і злачынствы. Кожнага жыхара гэтай зямлі прымушалі прызнаваць тое, што яму гвалтоуна дыктавалі. Радзіліся людзі у няволі, радзіліся нявольнікамі і не маглі дыхнуць вольна, як іншые людзі. Надыйшла гэтая вялікая вайна, вялікая хваля разрухі. Яна пракацілася па гэтай зямлі ад краю у край і на працягу 5-х гадоу тутака гуляу самы злосны гвалт над душамі і сэрцамі

---

— Во зараз, панечка, гаршкі памыю ды і пайду да гандляра. Знама, ен там, як і заусягды,—казала Марыся.—А вам, імосьцейка, бяда з ім. Дзякуй Богу, там добрые людзі за ім прыглядаюць калі прыходзе.

II.

У будынку Трускоускага толькі папалуднавалі. Снаха памыла гаршкі. Маладзіца—гандлярыха села за рукадзельле, а гандляр меу звычай трохі пахрапці апасьля палудня. Толькі ен заснуу, аж нехта застучэу у дзьверы. Дзьверы былі зачынены на крук.

— Адчынеце, чаго зачыняеце дзьверы? Ад хадзяіна заперліся?

— Бачыш, гэта-ж Дзіружыцкі прышоу? Ен-жа разбушаняецца, дык і Васіля разбудзіць. Ці адчыніць, ці ня пушчаць? казала снаха.

— Адчыні,—усе роуна ня сьціхнець: лепей адчыніць.

— Я вам кажу, адчынеце дзьверы!—крычау, стукаючы кулаччам, стары.

— Зараз адчыню!—гаворыць снаха і адчыняе.

Увайшоу пан Дзіружыцкі. На ем быу капялюш, колісь зялены, а цяпер аблезлы ды рыжы ад сонца. Сівые валасы тырчэлі с-пад капялюша, а гэтак сівая з жоутым барада была узлахмочана. Вочы глядзелі са злосьцю, бо дужа загневауся дзед.

— Сярод дня зачыняюць дзьверы!.. Хіба злодзея баіцеся, ці яшчэ якога чорта? Ад самога хадзяіна зачыніліся. Ці есьць у вас што у галаве?!

Дзядулька пачау наказваць, што ня трэба дзьверы зачыняць у поудні, але нешта замінуууся.

— А госьці дарагіе!—убачыу ен дзьвюх кабет, зьняу капялюш і паказау валасы, як лохмы.

— Нешта-ж я доуга вас ня бачыу. Ну, сядзьце, пагаворым!—Дзед пасадзіу снаху на канапу.

— А гэта якаясь радня ваша?—зірнуу ен на маладзіцу.

— Ну, здарова, здарова!—пагладзіу маладзіцу, а яна сядзела на нізкім табурэце.

— Рукадзельніца,—пахваляючы, кажаць дзед,—рукадзельніца!—і ен нагнууся, каб яе пацалаваць. Цмокнуу яе, аж тая засаромелася.

— Так, так, працуй!—і пашоу у другі пакой, мусіць, шукаць сваю жонку.

— Кацярына!—клікау ен, шукаючы па пакоях,—куды ты запрапасьцілася, ніяк цябе ня знайдзеш?!

— Хвароба яе ведаець, куды яе занясло!—сказау ен, прышоушы зноу да кабет.

Вышау у сені і стау гукаць батрачку.

— Марыся, Марыся! Гдзе ты? Самавар час наставіць. Госьці прышлі.

— І Марысі няма,—гаворыць дзед, увайшоушы да кабет,—як у воду, згінулі! І самавара некаму наставіць, гасьцей дарагіх гарбатай напаіць.

А маладзіца з снахой і шкадавалі і забауляліся старым.

— Паглядзеце, дзядулька, можа яны у сале? Вы-ж туды яшчэ не хадзілі.

Пайшоу дзед у салю. Гадзіньнік быу у салі стары, сьценны, і трэшчына на ем ішла праз дванастую і шостую гадзіну. І колькі разоу ня йшоу дзед па салі, столькі, сьляпуючы, глядзеу старымі вачмі і лічыу трэшчыну за стрэлку, што паказвае шэсьць гадзін, і кожны раз казау:

— Шэсьць часоу.

Вярнууся у сталовы пакой.

— Можа яны на двары?—кажаць снаха.

— Чаго яны на двары?

— Глядзяць курэй, качак.

Паслухау дзед, пайшоу на двор.

**В. Бруевіч.**

*(Канец будзе).*

